● Наматайце на вус

## Аматары морквы прызнаны лепшымі каханкамі

Італьянскія вучоныя паспрабавалі высветліць, як сексуальнасць людзей залежыць ад тых прадуктаў, што яны любяць. Аказалася, што тыя, хто любіць моркву, маюць вялізны сексуальны "апетыт", яны з'яўляюцца страснымі каханкамі, любяць апранацца ў сексапільныя ўборы. Вучоныя прыйшлі таксама да высновы, што аматары кавы вельмі какетлівыя, ім падабаецца фліртаваць. Мужчыны, якія перад усім любяць поп-корн ці траску, таксама прызнаны добрымі каханкамі, прыхільнікі мучнога вельмі надзейныя, а мясаеды — надзвычай эгаістычныя.

● Во даюць рускія!

## Вынайшлі размаўляючую гарэлку

Расійскія ўмельцы прыдумалі размаўляючую гарэлку. Вы адкрываеце бутэльку — і крышка пачынае... гаварыць. Гутарка пачынаецца з інструкцыі кшталту "Разлівай!". Адна з функцый размаўляючай гарэлкі — яна будзе прамаўляць тосты і вам не трэба будзе іх выдумляць.

Спачатку тосты вымаўляюцца прадумана і паслядоўна, напрыклад: "За прыгажосць жанчын, якія сабраліся тут" і г.д. Кожны раз, калі вы адкрываеце бутэльку для наступнага "раунда", крышка прамаўляе новы тост. У канцы тосты становяцца больш эмацыянальнымі. Калі ж бутэлька заканчваецца, яна прапаноўвае выпіць "за нас".

На думку стваральнікаў, размаўляючая бутэлька з гарэлкай можа стаць кампаньёнам, калі вам не будзе з кім выпіць. Напрыклад, крышка пытаецца: "Як наконт яшчэ адной?", а пасля аддае "загад": "Налівай!"

Размаўляючая бутэлька выглядае як звычайная. Аднак унутры крышкі ўманціраваны батарэйкі і галасавы чып. Батарэйкі працуюць некалькі гадзін, і гэтага дастаткова, каб выпіць літровую бутэльку. "Гарэлка Джын" (так называецца навінка) неўзабаве з'явіцца на прылаўках расійскіх магазінаў, каштаваць яна будзе да 8 долараў.

## Табачный бизнес

Продажа сигарет без акцизных марок — дело прибыльное. Именно поэтому и везут к нам из России контрабандный товар, не взирая на строгость наказания.

Риск большой. За нарушение требований Декрета N 31 Президента Республики Беларусь можно товара лишиться и выложить кругленькую сумму в виде штрафа. Но соблазн велик. Уже в этом году у пассажиров поездов, следующих по маршруту Унеча-Кричев, изъято 4.614 пачек безакцизных сигарет на общую сумму 1.304.820 рублей. Нарушители уплатили штрафов на сумму 768 тысяч рублей.

В нашу страну одному человеку разрешено ввозить не более двадцати пачек сигарет без акцизных марок, а везут сотнями. Например, Михаил Расевич из Чаус пытался ввезти 950 пачек на сумму 179 тысяч рублей. Товар конфискован в доход государства, а сумма штрафа составила 108 тысяч рублей.

Вадим Попель из Кричева вез 490 пачек на 58.800 рублей. Сигареты конфискованы и наложен штраф 114 тысяч рублей.

Могилевчанка Ирина Серакова за попытку безакцизного ввоза 450 пачек сигарет на сумму 225 тысяч рублей оштрафована на 72 тысячи, а товар конфискован.

Виталий Сокольчик из Климович вез 300 пачек на сумму 135 тысяч рублей. Пришлось ему и с товаром проститься, и 72 тысячи заплатить.

Интересно, откуда у безработных такие деньги? Не иначе, как превратили контрабанду в доходный промысел.

Но самым "уловистым" для милиционеров Кричевского ОВДТ был рейс Унеча-Гродно 18 октября прошлого года. Тогда в вагонах N 7, N 8, и N 9 были обнаружены 8.670 пачек безакцизных сигарет "Союз-Аполлон" и "Балканская звезда" на сумму 1.684.000 рублей. Кроме этого 500 пачек сигарет везла проводница девятого вагона. Табак конфискован, а на проводницу наложен штраф в размере двадцати "минималок".

Не идет на спад табачный бизнес. Контрабандный ввоз сигарет из России продолжается.

## "Несуны" осуждены

Для многих, нигде не работающих жительниц расположенных в районе железнодорожного вокзала частных домов хищение угля и торфяных брикетов стало обыденным делом. Они считают, что у государства не убудет, если взять 50-60 килограммов. Вот и направляются под покровом ночи на топливный склад локомотивного депо или на повышенный путь станции Кричев-1, где ведутся погрузочно-разгрузочные работы.

В зависимости от времени года "несуны" берут санки или тележки, мешки и катят к месту хранения топлива. Там грузят мешок-два и везут к своим сараям. Их ловят милиционеры, составляют административные протоколы за мелкое хищение и направляют в суд. Однако, наказание за административное правонарушение не останавливает воришек. Через некоторое время они снова направляются за топливом. А за повторное в течение года мелкое хищение уже предусмотрена уголовная ответственность по ст. 213 УК РБ.

Так, в текущем году по повторности уже осуждены Любовь Зайцева, Наталья Старовойтова, Жанна Колбеева и Валентина Венгерова. Возбуждены также уголовные дела против Екатерины Рожковой и Ирины Швархалевой.

Последнюю с 5 по 28 февраля составлено восемь административных протоколов за мелкое хищение угля и торфобрикетов. Женщина ходила воровать топливо с завидным упрямством.

**Александр БОЛДОВСКИЙ.**

● Беларускі гумар



## Бедная старая

— Вы чаму, бабуся, плачаце?

— Як жа мне, галубок, не плакаць. У царкве сказалі, што на тым свеце "будзе плач і скрыгат зубоўны". А чым жа я буду скрыгатаць, калі ў мяне і зуба ніводнага няма?

● Куток гаспадыні

### Печаная цыбуля

Памыйце 300 г цыбулі і, ня чысціўшы, запячыце ў духоўцы да мяккасці, пасля чаго аблупіце шалупінне. Буйныя цыбуліны разрэжце, дробныя астаўце цэлымі. Выкладзіце на талерку, залейце 2-3 сталовымі лыжкамі маянэзу ці сумессю сланечнікавага алею і лімоннага соку (можна з воцатам), багата пасыпце сечанай зялёнай пятрушкі. Гэтая салата смачная і ў гарачым, і ў халодным выглядзе.

### Тварожнікі з разынкамі і сухарамі

Твораг, змешаны ў малацэ з сухарамі і прамытымі разынкамі (ізюмам), прапусціць праз мясарубку, злучыць з яйкам і цукрам. Падрыхтаваную масу раскачаць у каўбаску, нарэзаць па 2 штукі на порцыю, паніраваць у памеленых сухарах і абсмажыць да залацістага колеру. Пры падачы да стала паліць смятанай.

*На 2 порцыі: 120 г тварагу, 40 г белых сухароў, 25 г разынак, 20 г малака, 1/3 яйка, 10 г цукру, 15 г маргарыну, 30 г смятаны.*

### Запяканка з хлеба з морквай

Белы чэрствы хлеб без скарынкі замочваюць у малацэ, злучаюць з нацёртай на дробнай тарцы морквай, узбіваюць яйкі, дадаюць цукар, соль і размешваюць. Аднародную масу выкладваюць у форму ці на бляху, змазаную тлустам і пасыпаную сухарамі, і запякаюць да ўтварэння падсмажыстай скаранчкі. Падаюць са смятанай.

*100 г морквы, 80 г хлеба пшанічнага, 80 г малака, 1 яйка, 20 г цукру, 8 г маргарыну, 5 сухароў, 30 г смятаны і соль па смаку.*

**Е.ПАТОЦКАЯ.**

### Сырназдраваты

На кілаграм тварагу — 4 яйкі, 150-120 г масла сметанковага. У працёрты твораг уліваем літар сырадою, варым усё разам 10 хвілін, памешваючы, а потым выціскаем праз марлю. Цяпер растопім масла, разбіваем у яго яйкі, солім па смаку, кладзём драбок (шчэпаць) соды ці некалькі кропель лімоннага соку, добра размешваем масу, злучаем з тварагом і варым яшчэ 10 хвілін. Масу выкладваем у форму, якую папярэдне змазваем маслам. Гатовы сыр зверху крыху пасыпаем соллю і ставім у халоднае месца. Астыне — і можна есці.

Прыемнага апетыту!

**В.ГРАМАРЭЦКАЯ.**

● Гаючая флора

## Вішня

На Русі вішню здаўна называлі "любовной ягодой, сладкой".

Калі хтосьці, муж ці жонка, "стаў халодным", няма колішняга запалу, гарачыні, пастаўце на стол страву з вішняй. Не паланунуйцеся — назапасьце яе на зіму, каб у гэту халодную пару пабалавацца каравокай прыгажуняй.

Вішня — адзін з незаменных сродкаў пры моцных крывацёках у жанчын. Асабліва, калі ёсць з'явы анеміі, калі адзначаецца нізкі гемаглабін. Умелі нашы прабабкі сушыць вішню на зіму. Круглы год радавала яна і дапамагала ў цяжкую хвіліну.

Народныя знахары ведаюць, што амаль такімі ж лекавымі ўласцівасцямі валодаюць чаранкі ад вішні, якая цвіце ці ўжо выспела. Іх збіралі і сушылі. Заварвалі як гарбату. Адным з артыкулаў дахадаў Манастыроў былі лісця і пладаножкі вішні, якія сушылі ў канцы мая.

### Настой пладаножак

**Рэцэпт:** чайная лыжка сухіх здробненых пладаножак на шклянку кіпеню. Настойваць да ахаладжэння. Піць па сталовай лыжцы 4-6 разоў у дзень за 10-15 хвілін да яды.

**Адвар:** 2 сталовыя лыжкі сухіх пладаножак заліць шклянкай кіпеню. Настойваць да ахаладжэння. Дадаць 1/2 шклянкі вішнёвага ці малінавага соку. Выпіць на працягу дня ў прамежках паміж ядою. Курс лячэння — 9-11 дзён.

## Калган (дуброўка)

Старажытны доктар Патэджы называў калган "дастапахвальным лякарствам", асабліва карнявішча, сок якога нагамінае па смаку і лекавых уласцівасцях сок шаўкоўніцы. З калганам звязана такая легенда. Грэчаскі Бог Сацір, які не абыходзіў увагай ні адну з німф, якія гарэзнічалі ў лясах, лугах, на берагах рачулак, не стамляўся ад сваіх гульняў. А Багам на Алімпе надакучылі свавольствы Саціра і скаргі німф. Вось яны і пакаралі распусніка, пазбавіўшы яго магчымасці забаўляцца падобным чынам. Атабралі Богі ў Саціра ўсё тое, што прыносіла яму столькі радасці, і параскідвалі па Зямлі рэшткі доблесцей Саціра. Ад гэтых рэшткаў і вырас корань, які людзі назвалі калганам.

У Запарожскай сечы калган называлі "мужчынскім коранем".

У дадатку да Пермскага Зборніка за 1860 год сказана: "Трава калган цёплая, суха, прыгожа, у сабе мае шмат сілы: Хочаш кроў пускаць, вазьмі ў рот — сваёй сілай выганяе. А хто яе ўвечару еў і з віном земскім (лёгкім) прымаў, той ад жонак сапсаваны не будзе, а хвала вялікая будзе. А яшчэ ў каго язык баліць, порахам той травы змазвай. А яшчэ каторая рана вельмі гніе, таго ж пораху ад травы перамяшай з мёдам, накладзі на ранку, і ўздараўлівае, сушыць".

Корань пажадана збіраць у жніўні — верасні.

Расце ён у полі, у лесе. І знайсці яго ня цяжка. Корань памыць у халоднай вадзе, парэзаць, высушыць.

**Рэцэпт:** настойваць на працягу тыдня 100 г кораня на паўлітры 40-градуснай гарэлкі. Прымаць па 25-30 кропель тройчы ў дзень, прыблізна ў 16, 18 і 20 гадзін. Піць 30-40 дзён, пасля 10 дзён перапынку можна паўтарыць яшчэ 2-3 курсы. Гэта адно з лепшых сродкаў лячэння імпатэнцыі.

Корань калгана дапамагае і жанчынам пры маточных крывацёках, асабліва ў клімактэрычным перыядзе.

● Парады прыгожаму полу

## Дзесяць спосабаў стаць прывабнай

<u>1. Усміхайцеся!</u> Крык і злосць знішчаюць прыгажосць. У спакойных, добразычлівых адносінах з тымі, хто вас акружае, — залог вашай прывабнасці.

<u>2. Адзін дзень або вечар у тыдзень прысвяціце сабе, любімай.</u> Схадзіце да цырульніка або касметолага, нарэшце, зрабіце дома маску для твару і шыі. Майце звычку даглядаць сваё цела, тады ў любым узросце вы будзеце чароўнай.

<u>3. Стыль вашага хатняга адзення — акуратнасць і зручнасць.</u> Блізкія ацэняць у гэтым выпадку Ваш цудоўны выгляд, і адсюль — ваш добры настрой.

<u>4. Вучыцеся карыстацца макіяжам.</u> Ніводная паважаючая сябе жанчына не дазволіць сабе выйсці з дому без касметыкі. Але, барані Божа, каб касметыка ваша "крычала". Удзень макіяж павінен быць лёгкім, у светлых тонах, інакш вы будзеце выглядаць старэй за свой узрост. Прытрымлівайцеся прынцыпу: не выдзяляць на твары ярка адразу вочы і губы. Зрабіце акцэнт на чым-небудзь адным.

<u>5. Палова вашага поспеху — у прычосцы.</u> Не варта сляпа прытрымлівацца моды. Ваша прычоска павінна арганічна спалучацца з макіяжам, адзеннем, тыпам знешнасці. І яшчэ — хаваць недахопы і падкрэсліваць усё лепшае. Не шкадуйце грошай на цырульніка — калі вы добра падстрыжаныя, увесь месяц галава будзе ў найлепшым выглядзе.

<u>6. Сачыце за масай цела, гуляйце, рабіце гімнастыку!</u> Гэта гучыць сумна, але — што зробіш? Толькі прыгажосць можна здабыць лёгкую паходку і стройную фігуру.

<u>7. Лепш есці 5 разоў пакрыху, чым 3 разы памногу!</u> Ворагі вашай прыгажосці — цукар, соль, вострыя прыправы, алкаголь. Сяброў сябро ў — агародніна і садавіна.

<u>8. Плануйце заўтрашні дзень!</u> Гэта пазбавіць ад лішніх хваляванняў і клопатаў. Знайдзіце 15 хвілін у дзень паляжаць або хаця б расслабіцца ў крэсле.

<u>9. Далучайце да хатніх спраў мужа і дзяцей.</u> Разам зробленая работа больш здружыць вас, а вы не так стоміцеся.

<u>10. Не думайце пра свае няўдачы.</u> Прымайце іх спакойна і верце, што хутка яны зменяцца ўдачамі. Не паддавайцеся хандры. Напрыклад, польскія жанчыны лічаць, што калі ў вас дрэнны настрой, то трэба пашыць сабе новую сукенку, пераставіць мэблю ў кватэры ці хаця б зрабіць прычоску. Магчыма, гэта правільна. Будзьце заўсёды прывабнымі!

### Анекдот для дам

Сяброўка скардзіцца:

— У нас безвыхадная становішча: у мяне не засталося аніякай зачэпкі для сваркі з мужам.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік**— рэдакцыя газеты «Беларускі Усход».

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзіны 18 красавіка 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 3483 ас. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 16.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**